Гродна
№21 (527),
24 лістапада 2019

www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# КОЛЕРЫ АДВЭНТУ

**Набліжаецца цудоўны час – Адвэнт.
У кагосьці ён атаясамліваецца
са зззяннем гірлянд у крамах і на вуліцах.
Хтосьці ўспрымае гэты перыяд у адценнях цёмных раніц
і далікатнага святла свечак падчас раратніх св. Імшаў
альбо бачыць драўляныя яслі і залатое сена
добрых учынкаў, сабраных для Дзіцятка Езус.
Для некаторых гэта цяжкі час перад першымі Святамі
без самых блізкіх, якія адышлі ў вечнасць...
А з чым у Вас атаясамліваецца Адвэнт?**

● *працяг на с. 4–5*

# ДАР ДЛЯ ЎСЯГО КАСЦЁЛА



**Ва ўрачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай, Маці Міласэрнасці, галоўнай Апякункі Гродзенскай дыяцэзіі, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч удзяліў прэзбітэрскае пасвячэнне аднаму дыякану і дыяканскае пасвячэнне 5-ці семінарыстам. Урачыстасць адбылася ў катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.**

● *працяг на с. 4–5*

**“Пакліканне Пана не з’яўляецца ўмяшаннем Бога ў нашу свабоду”. Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### УРАЧЫСТАСЦЬ ЕЗУСА ХРЫСТА, ВАЛАДАРА СУСВЕТУ

**Лк 23, 35–43**

Насміхаліся з Езуса разам з народам і кіраўнікі, кажучы: "Іншых ратаваў, няхай уратуе сябе самога, калі Ён Месія, выбраны Богам". Таксама і жаўнеры здзекаваліся з Яго. Падыходзілі і падносілі Яму воцат, кажучы: "Калі Ты Кароль юдэйскі, уратуй сябе самога". І быў над Ім надпіс: "Гэта Кароль юдэйскі". Адзін з павешаных злачынцаў зневажаў Яго, кажучы: "Калі Ты Месія, уратуй сябе і нас". А другі ў адказ дакараў яго і казаў: "Ты нават Бога не баішся, хоць і сам асуджаны на тое самае? Мы асуджаныя справядліва, бо за тое, што зрабілі, атрымліваем. Ён жа нічога благога не зрабіў". І сказаў: "Езу, узгадай мяне, калі прыйдзеш у сваё Валадарства". Езус адказаў яму: "Сапраўды кажу табе: сёння ж будзеш са Мною ў раі".

### КАРАЛЕЎСКАЯ ГОДНАСЦЬ

Хрыстос з'яўляецца Валадаром па сутнасці сваёй Боскай ідэнтычнасці з натурай Нябеснага Айца і Святога Духа: "Ён з'яўляецца вобразам нябачнага Бога, першародным сярод усякага стварэння. Бо ў Ім было створана ўсё..." (Кал 1, 15–16а). Гэтага не зразумелі тыя, хто абражаў Збаўцу, калі Яго прыбілі да крыжа. Таямніцу Аб'яўлення зразумеў адзін са злачынцаў, што вісеў побач з Езусам. Ён і атрымаў ад Пана абяцанне: "Сёння ж будзеш са Мною ў раі".

Урачыстасць Хрыста Валадара, якой заканчваецца літургічны год, натхняе адкрыць у сабе каралеўскую годнасць Божых дзяцей і паклікання да ажыццяўлення ўлады над створаным светам. Ёю Пан адарыў людзей на пачатку гісторыі чалавецтва, наказваючы: "Напаўняйце зямлю і валодайце ёю; пануйце над рыбамі марскімі, над птаствам нябесным і над усімі жывымі істотамі, якія рухаюцца па зямлі" (Быц 1, 28).

Тэрыторыя нашай улады – гэта асяроддзе, у якім мы жывём. Як памазаннікі Бога і апосталы Хрыста павінны сеяць вакол сябе любоў і спакой, памятаючы, што ў Божым Валадарстве пануюць законы, адрозныя ад краін гэтага свету. Варта нястомна разважаць у душы наказ Пана: "Але хто хоча быць большым сярод вас, няхай будзе вам слугою; і хто хоча сярод вас быць першым, няхай будзе вашым нявольнікам" (Мц 20, 26–27). Няхай закон, які Святы Дух пакінуў у сэрцы Касцёла, выдасць шчодры плён для ўсяго Сусвету!

**Што, на маю думку, з'яўляецца сутнасцю Хрыстовага валадарання?**

**Наколькі я здольны падпарадкаваць свой лёс камусьці іншаму?**

### І НЯДЗЕЛЯ АДВЭНТУ

**Мц 24, 37–44**

Езус сказаў сваім вучням: "Як было ў дні Ноя, так будзе і ў час прыйсця Сына Чалавечага. Бо, як у дні перад патопам елі, пілі, жаніліся і выходзілі замуж аж да таго дня, калі Ной увайшоў у каўчэг, і не ведалі, пакуль не прыйшоў патоп і не забраў усіх: так будзе і ў час прыйсця Сына Чалавечага. Тады двое будуць у полі: адзін будзе ўзяты, а другі пакінуты. Дзве будуць малоць на жорнах: адна будзе ўзятая, а другая пакінутая. Таму чувайце, бо не ведаеце, у які дзень Пан ваш прыйдзе. Бо ведаеце, што калі б гаспадар дому ведаў, у якую варту прыйдзе злодзей, дык не спаў бы і не даў бы падкапаць дом свой. Таму і вы будзьце гатовыя, бо Сын Чалавечы прыйдзе ў тую гадзіну, калі вы не думаеце".

### ЧАС ЧАКАННЯ

Жыццё неаднойчы складаецца з чакання: вясны, заробку, зручных абставін, адпачынку, сустрэчы... У Евангеліі таксама знаходзім мноства апісанняў чакання. Слугі чакаюць вяртання свайго Пана. Панны са светачамі ў руках чакаюць жаніха. Гаспадар чакае, пакуль зямля прынясе ўраджай. Апосталы ў Аліўным садзе падаюць, змораныя сном, чакаючы вяртання Настаўніка, які маліўся перад Мукай... У кожным з гэтых фрагментаў гадзіна выканання абяцання застаецца невядомай.

Штогод на пачатку Адвэнту мы чуем заклік: "Таму чувайце, бо не ведаеце, у які дзень Пан ваш прыйдзе". Як хрысціяне павінны нястомна чакаць прыходу Пана і быць да яго гатовымі. У такім выпадку гэта будзе благаслаўлёны час, які стане шансам, каб у сэрцы, напоўненым смуткам, выспявала ласка.

Просім Усемагутнага аб падтрымцы ў нашых намаганнях і дапамозе, каб праз добрыя ўчынкі годна падрыхтавацца да сустрэчы з Хрыстом.

**Як буду рыхтавацца да сустрэчы з Панам падчас сёлетняга Адвэнту?**

**Ці мае пастановы на перыяд радаснага чакання вядуць да паглыблення адносін з Богам?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Засвойваць і пашыраць Евангелле

*У тым, што людзі сёння страшна нецярплівыя, напэўна, не трэба нікога пераконваць. Дастаткова паглядзець, што адбываецца ў чэргах у супермаркетах, пры пасадцы ў аўтобус ці высадцы з цягніка, звярнуць увагу, калі на вуліцах і ў вітрынах магазінаў з'яўляюцца святочныя дэкарацыі. Сучасны чалавек спяшаецца жыць, хоча мець усё адразу, неадкладна.*

Перыяд перад святамі Божага Нараджэння людзі звычайна праводзяць актыўна. Чым бліжэй, тым гарачэй. Пакупкі, прыбіранне, гатаванне, перадсвяточная споведзь і г. д. Часам у такой мітусні можна забыцца, навошта ўсё гэта ўвогуле робіцца. Адвэнт павінен навучыць нас радаснаму і адначасова цярплівому чаканню паўторнага прыходу Пана Езуса.

Трэба ўсвядоміць, што ўчынкі могуць быць выразам любові да бліжніх, толькі калі выконваем іх з пакорай. Памятайма, што служэнне іншым – у канчатковым рахунку менавіта пра гэта ідзе гаворка – павінна наблізіць нас да Пана, які прыйшоў для таго, каб служыць, а не каб Яму служылі (параўн. Мц 20, 28).

Жадаючы добра падрыхтавацца да свят Божага Нараджэння, не варта засяроджвацца на неістотных рэчах. Гаворка пра хоць неаднойчы вельмі набожныя, але толькі дадаткі. У гонцы за дробязямі рызыкуем згубіць з поля зроку сапраўдны Гарызонт нашага жыцця, якім з'яўляецца Хрыстос.

Езус неаднойчы падкрэсліваў, што пакліканне кожнага чалавека – з'яднанне з Айцом. Бог стаў чалавекам, каб мы аднойчы маглі прыняць поўны ўдзел у Яго жыцці. Каб рэалізаваць гэтае пакліканне, мусім дазволіць, каб Евангелле пранікала ў нашыя сэрцы, а таксама распаўсюджваць яго сярод усяго стварэння. Гэта нялёгкая задача. Як засвойванне Добрай Навіны, так і яе распаўсюджванне адбываецца дзякуючы нястомным намаганням з боку чалавека. Аднак выраўніванне сцежак для Збаўцы – прынцыповая і вельмі важная справа ў жыцці кожнага хрысціяніна. У Адвэнце мы павінны ўзяцца за яе з новым запалам.

**Дарагія Чытачы!**

Памятайма, што наша канчатковая мэта – асягнуць збаўленне, якое з'яўляецца найбольшым дабром для чалавека. Быць збаўленым – значыць стаць удзельнікам Боскага жыцця, паглыбіцца ў любоў і шчасце самога Стварыцеля.

## ЖЫЦЬ ЕВАНГЕЛЛЕМ
## ПЕРШЫ СІНОД ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Працы Сінода датычаць як усёй дыяцэзіі ў цэлым, так і кожнага асабіста

**Ужо 2 гады трывае I Сінод Гродзенскай дыяцэзіі. Так як ён першы, усе мы разам вучымся ісці гэтай дарагой з клопатам пра развіццё мясцовага Касцёла.**

Сінод не можа быць справай адных толькі святароў і кансэкраваных асоб. Ён не павінен пераўтварацца ў клерыкальны сход, а перш за ўсё мусіць з'яўляцца прадметам зацікаўленасці саміх вернікаў, неабыякавых да лёсу Касцёла, да якога належаць.

На цяперашні момант на ўсіх сінадальных (16 камісій і 2 падкамісіі) і дэканальных (16 камісій) камісіях прысутныя свецкія асобы. Яны прадстаўляюць частку вернікаў, актыўных у сваіх парафіях, а таксама задзейнічаных у касцёльных інстытутах. У супрацоўніцтве са святарамі яны выступаюць як эксперты ў тых сферах жыцця, дзе святар ці кансэкраваная асоба не мае адпаведнага досведу або кваліфікацыі.

Цешыць той факт, што падчас сінадальных прац святары і свецкія вернікі плённа ўзаемадзейнічаюць. Напрыклад, прадстаўнікі Камісіі па справах катэхезы і каталіцкага выхавання, Камісіі па справах дабрачыннасці і Камісіі па справах евангелізацыі і рэлігійных рухаў разам падрыхтавалі апытальнікі і выслалі іх у парафіі. Пры нагодзе хачу адзначыць, што на падставе прац сінадальных камісій рыхтуецца агульнадыяцэзіяльны апытальнік. Кожны вернік зможа акрэсліць тыя пытанні, якія хвалююць яго на дадзены момант. Гэты апытальнік ужо знаходзіцца ў распрацоўцы і будзе апублікаваны ў наступным нумары газеты "Слова Жыцця". Ён стане свайго роду барометрам зацікаўленасці дыяцэзіян тэмамі, якія абмяркоўваюцца падчас пасяджэнняў сінадальных камісій.

Дзейнасць свецкіх асоб рэгулюецца навучаннем і дакументамі Касцёла і не можа выходзіць за межы, акрэсленыя іх пакліканнем. Першачаргова гэта датычыць дзейнасці і кампетэнцыі парафіяльных рад, супрацоўніцтва і ўзаемаадносін вернікаў з духавенствам, даручэння свецкім асобам абавязкаў і функцый, якія дазволены Касцёлам, захавання мясцовых традыцый і звычаяў, справы ўтрымання свецкіх прафіяльных супрацоўнікаў. Апрача гэтага, свецкія прадстаўнікі дэканальных камісій могуць непасрэдна ўносіць прапановы аб дзейнасці рэлігійных рухаў і таварыстваў у сваіх парафіях, аб развіцці справы пакліканняў.

Акрамя вузканакіраваных пытанняў сінадальныя камісіі і падкамісіі маюць патрэбу пачуць меркаванні дыяцэзіян наконт ролі лакальнага Касцёла ў сучасным грамадстве і магчымасці евангелізацыі ўсіх яго вернікаў. Востра стаіць пытанні рэлігійнага выхавання, захавання сямейных каштоўнасцей, стварэння дыяцэзіяльнай школы аніматараў і свецкіх лідэраў як супрацоўнікаў святароў у парафіях... Гэта тыя сучасныя выклікі, на якія сёння нам трэба даць неадкладны адказ.

Вельмі важна, каб кожны вернік мог свабодна агучыць сваю прапанову або параду наконт спраў, якія датычаць працы Сінода, і прычыніцца да ажыўлення часам "скасцянелай" рэчаіснасці (нават калі гэта і балючая справа для ўсяга Касцёла). Такім чынам, гэта ў стане зрабіць любы жадаючы. Свае пажаданні неабходна накіроўваць на электронны адрас: synodus.grodnensis@gmail.com. Ліст не можа быць ананімным або мець на мэце выключна асуджэнне. Варта канкрэтна абазначыць праблему і прапанаваць шляхі да яе вырашэння. Выказанае меркаванне будзе мець дарадчую ролю ў працы сінадальных камісій.

Я вельмі ўдзячны ўсім неравнадушным людзям за ўдзел у працах I Сінода Гродзенскай дыяцэзіі. Хацелася б пажадаць вернікам большай актыўнасці, а святарам – павагі да выказванняў вернікаў. Будзем слухаць адзін аднаго, каб стварыць духоўную сям'ю, адказную за далейшую будучыню Касцёла ў нашай дыяцэзіі!

*Кс. кан. Антоній Грэмза, генеральны сакратар I Сінода Гродзенскай дыяцэзіі*






# ДЗЕЦІ НЕ ВІНАВАТЫЯ!

***Дзіця не нейкая цацка, якую можна "набыць за грошы" ці "нарадзіць для сябе". Гэта маленькі чалавек, які прыходзіць у свет для любові: спярша, каб напоўніцца ёю, а пасля, каб дзяліцца. Але як можна дзяліцца тым, што было не да канца зведана?***

***Сёння разбіраем складаныя выпадкі ў сем'ях. З неадназначнымі сітуацыямі дапамагае разабрацца доктар маральнай тэалогіі кс. Мікалай Ціхановіч.***

***– Біч сучаснасці – няпоўныя сем'і. Іх шмат. Кс. Мікалай, як Касцёл рэкамендуе выхоўваць дзяцей, якія растуць з адчуваннем абдзеленасці? На што трэба звяртаць увагу бацькам, каб выгадаваць нармальную паўнавартасную асобу?***

– У Божым плане сям'я – гэта маці, бацька і дзеці. І якія б іншыя тэорыі і канцэпцыі людзі не стваралі ў адносінах да сям'і, усё гэта толькі ілюзія.

Праблема няпоўных сем'яў стаіць у нашым грамадстве вельмі востра. Найлепш, канешне, не дапускаць разводу, змагацца за адзінства сям'і. Для гэтага мужчына і жанчына ўжо на самым пачатку павінны нястомна інвеставаць у сваё сужэнства, рабіць усё магчымае, каб быць разам. Неабходна думаць пра дзяцей, якім патрэбны родныя маці і бацька, а не мачыха ці айчым. У сям'і варта клапаціцца аб атмасферы сапраўднай любові і гармоніі, бо толькі ў такім асяроддзі дзіця можа быць выхавана належным чынам.

***– У дзяцей, якіх гадуе адзін з бацькоў, часта складваецца няправільны вобраз традыцыйнай сям'і. Пазней па гэтай жа мадэлі яны могуць выбудаваць сваё сужэнства. Ці можа дарослы чалавек пастарацца не дапусціць падобнага лёсу для сына ці дачкі?***

– Можа, але, на мой погляд, гэта вельмі складана. Першачаргова трэба ўсвядоміць асабістую праблему. Наступным крокам з'яўляецца духоўнае аздараўленне, якое перажываецца з Богам. Толькі прайшоўшы такі складаны працэс асабіста, дарослы чалавек можа дапамагчы свайму дзіцяці не паўтарыць яго памылак.

***– Горш, калі ў свядомасці дзяцей закладваецца няправільны вобраз традыцыйнага сужэнства. Такое адбываецца ў аднаполых саюзах, якім законам дазволена ўсынаўленне (на сёння больш чым у 20-ці краінах свету). Якім чынам Касцёл пакліканы дапамагчы дзецям са зламанай псіхікай?***

– Напэўна, існуюць рознага тыпу рэабілітацыйныя цэнтры, у якіх Касцёл актыўна задзейнічаны. Унутры Касцёла працуюць групы валанцёраў-спецыялістаў, якія могуць шмат зрабіць для такіх дзяцей. Аднак асабіста я лічу, што гэта справа не толькі Касцёла, голас якога ў секулярызаваным свеце не мае ўжо такога ўплыву, як раней. На жаль. Вельмі важнай з'яўляецца праца з сем'ямі. Яна павінна праводзіцца як на прафілактычным узроўні ў даным аспекце, так і на выхаваўчым. Касцёл не можа цалкам замяніць сям'ю, можа ёй толькі дапамагчы. Трэба, каб бацькі гэта разумелі і самі шукалі дапамогі.

**Двое са ста беларускіх дзяцей па розных прычынах пазбаўлены бацькоўскай апекі.**

***– Некаторыя дзеці былі зачатыя ў выніку згвалтавання жанчыны. Як ёй, пакрыўджанай, прыняць думку аб тым, што Бог дараваў жыццё праз жорсткасць і бязлітаснасць? Як пазней дзіцяці зразумець, што яно прыйшло ў свет "не ў любові"?***

– Жыццё кожнага чалавека – дар Творцы. З гэтым нельга не пагадзіцца нават у тым выпадку, калі цяжарнасць нежаданая. Вядома, што атмасфера зачацця ўплывае на будучае развіццё і выхаванне нованароджанага, аднак само жыццё чалавека падуладна Богу. Усемагутны мае на яго непасрэдны ўплыў.

Другі момант датычыць прыняцця гэтага дару з боку жанчыны. У хрысціянскай перспектыве ёй трэба даверыцца Божаму Провіду. Калі Творца дараваў жыццё ў яе ўлонні, значыць мае планы ў адносінах да чалавека, які павінен з'явіцца на свет. Такім чынам, дзіця, зачатае ў выніку згвалтавання жанчыны, мае аднолькавае з іншымі права на існаванне. І калі яно будзе любімае сваёй маці і бліжэйшым асяроддзем, мае ўсе шансы стаць шчаслівым.

***– Некаторыя дзеці па волі лёсу былі ўсыноўлены. Не ўсе, але многія з часам даведваюцца, што некалі іх пакінулі сапраўдныя бацькі, якія іх нарадзілі. Як пагадзіцца з такой несправядлівасцю?***

– Гэта, канешне, вялікі боль. Аднак хрысціяне, дзякуючы аб'яўленню Божай ласкі, павінны глядзець на сваё жыццё, дзе няспынна пераплятаюцца паміж сабой дабро і зло, з надзеяй на светлую будучыню. Дзеці, якія былі пакінуты біялагічнымі бацькамі, але атрымалі бацькоўскую любоў з іншых рук, могуць быць удзячны за гэта Богу і сваёй новай сям'і. Некаторым даводзіцца спазнаваць бацькоўскі клопат і пяшчоту з боку зусім чужых людзей... Касцёл заўсёды гатовы прытуліць дзяцей падчас катэхетычных заняткаў, працы ў святліцах. Вельмі важна, каб малады чалавек узрастаў у арэоле пяшчоты, каб адчуваў сябе патрэбным і любімым.

А што датычыць бацькоў, якія аднойчы па невядомай прычыне адмовіліся ад нованароджанага... Іх не трэба вінаваціць і асуджаць. Пакінутым дзецям нават пагадзіцца з такой несправядлівасцю будзе замала. Трэба прайсці нялёгкі, але вельмі важны этап прабачэння і прымірэння з імі. Па-хрысціянску кажучы, трэба вымаліць для сябе ласку, каб прабачыць бацькам. Практыка духоўнага аздараўлення паказвае, што гэты працэс з'яўляецца адным з самых галоўных у фарміраванні душэўна здаровай асобы.

**Амаль кожная 5-ая сям'я ў краіне няпоўная.**

***– Некаторыя бясплодныя бацькі адважваюцца на працэдуру ЭКА. Нараджаецца доўгачаканае немаўля. Як Касцёл ставіцца да такіх дзяцей? Ці дазваляе хрысціць іх, нягледзячы на тое, што прыйшлі ў свет "не зусім па Божай волі"?***

– Па-першае, Касцёл асуджае такую працэдуру, лічачы яе немаральнай і супярэчнай з Божым законам. Таму трэба адзначыць, што тыя бацькі, якія свядома згаджаюцца на штучнае апладненне, бяруць на сябе поўную адказнасць за ўсе немаральныя наступствы ЭКА.

Па-другое, Касцёл да кожнага чалавека ставіцца з любоўю і разуменнем, тым больш да дзяцей, якія не адказваюць за рашэнні сваіх бацькоў. Нягледзячы на тое, што людзі сёння на высокім узроўні валодаюць рэпрадуктыўнымі тэхналогіямі і нібы навучыліся маніпуліраваць працэсам зачацця, жыццё чалавека – гэта дар Стварыцеля. І кожнае зачатае жыццё Касцёл прымае з любоўю.

Што датычыць хросту дзяцей, якія нарадзіліся ў выніку ЭКА, то нароўні з усімі дзеткамі яны маюць поўнае права на атрыманне гэтай ласкі. Згодна з канонам 864 Кодэкса Кананічнага Права, прыняць хрост можа кожны чалавек. Адной з галоўных умоў у выпадку з малымі дзецьмі з'яўляецца згода бацькоў ці апекуноў на ўдзяленне сакраманту, а таксама існуючая надзея на тое, што ахрышчаны будзе выхаваны ў каталіцкай веры. У хросце можна адмовіць толькі тады, калі такой надзеі на выхаванне няма.

З пастырскага пункту гледжання, бацькам, якія адважыліся на працэдуру ЭКА, неабходна дапамагчы глыбока асэнсаваць і прыняць праўду аб іх немаральным – згодна з навучаннем Касцёла – рашэнні. Калі яны пакаюцца і будуць выхоўваць сваё патомства ў святле хрысціянскай веры, дзеці змогуць выправіць зло, учыненае бацькамі.

***– Некалі сурагатная маці ахвяравала для пэўнай сям'і свой генетычны матэрыял – нарадзілася дзіця. Прайшло няшмат часу, як у яе прачнуліся мацярынскія пачуцці. Ці мае жанчына якое-небудзь маральнае права на гэтае дзіця?***

– Гэтае пытанне на практыцы вельмі складанае. Сурагатнае мацярынства рэгулявана рознымі прававымі нормамі, якія часам самі сабе супярэчаць. Напрыклад, Сямейны Кодэкс Расійскай Федэрацыі рэзервуе права сурагатнай маці пакінуць сабе дзіця, а новы закон пра Асновы абароны здароўя грамадзян той жа краіны такога права ўжо не ўпамінае. Такім чынам, прыняць нейкую адназначную пазіцыю складана. Аднак Касцёл ясна выказваецца супраць сурагатнага мацярынства, бо яно супярэчыць асноўным прынцыпам праў чалавека.

***– Часам дзеці саромеюцца сваіх бацькоў (тыя п'юць, сядзяць за кратамі і інш.). Здараецца і так, што бацькі самі знаць не хочуць дзяцей. Як у падобных выпадках Касцёл раіць чалавеку змагацца з абурэннем у душы?***

– Ёсць такое выказванне ў народзе: "бацькоў не выбіраюць". Інакш кажучы, генеалогія і пашана да кроўных сувязей належыць да самой чалавечай прыроды. У выпадку паталагічных сітуацый (бо лічу, што толькі так гэта можна абазначыць) дапамога аднолькава патрэбна як бацькам, так і дзецям. Абодва бакі павінны нястомна прыкладваць намаганні, каб разбурыць муры варожасці і непаразумення і пабудаваць, калі гэта магчыма, масты прыязнасці.

Я перакананы, што тэма прымірэння з'яўляецца фундаментальнай ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі, а тым больш у выпадку сямейных сувязей. Сэрца, напоўненае прабачэннем і любоўю, можа не толькі перамагчы ўсялякае абурэнне супраць несправядлівасці і гвалту, але пакласці пачатак цалкам новым і цёплым адносінам. Дапамагчы ў гэтым вернікам – прыярытэтнае заданне Касцёла.

*Ангеліна Пакачайла*

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*Яўрэйскі народ многае выцерпеў у гісторыі. Яго перасялялі, праследавалі. У мінулым стагоддзі мы бачылі шмат зверстваў, якія спазналі яўрэі. Былі перакананыя, што гэты перыяд ужо скончыўся. Але сёння ў многіх месцах пачынае адраджацца звычай ганення яўрэяў. Браты і Сёстры, гэта ані па-людску, ані па-хрысціянску. Яўрэі з'яўляюцца нашымі братамі і нельга іх праследаваць! Ці зразумела гэта?*

*Фрагмент прамовы падчас агульнай аўдыенцыі ў Ватыкане, 13.11.2019*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Сёння Касцёл у Беларусі моцна стаіць на сваіх нагах, хоць праблем хапае. У першую чаргу, усё яшчэ не да канца вырашаная прававая сітуацыя. Няма канкардата і нават дамовы паміж Канферэнцыяй біскупаў і краінай, што ўпрасціла б дзейнасць Касцёла на нашых землях. Акрамя яшчэ недастаткова развітай матэрыяльнай базы, недахопу касцёлаў, святароў, манахаў і манахінь, добра інфармаваных свецкіх вернікаў, вялікай пагрозай з'яўляецца дэградацыя духоўных каштоўнасцей. [...] У такіх умовах сёння дзейнічае Касцёл як вартаўнік і праматар веры... І хоць гэта гучыць парадаксальна, у часы свабоды рэлігіі барацьбу трэба працягваць. У сувязі з чым узнікае пытанне: "Мы перамаглі няволю, але ці пераможам свабоду?".*

*Фрагмент гамілii падчас св. Імшы з нагоды 30-годдзя біскупскай кансэкрацыі ў гродзенскай катэдры, 10.11.2019*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*Першыя хрысціяне, калі ўзносілі свае малітвы да ўваскрослага Хрыста, з глыбокай верай і тугой у сэрцы ўсклікалі: "Прыйдзі, Пане Езу". Ужо хутка гэты заклік загучыць з новай сілай у літургіі Адвэнту, якая прыгадае нам аб тым, што павінны чуваць, г. зн. быць духоўна падрыхтаванымі да прыходу Збаўцы. Мы, святары, знаходзімся бліжэй за ўсіх да эўхарыстычнага Хрыста, прысутнага пад постацямі хлеба і віна. Прымаем Яго штодзённа ў свае сэрцы, раздаём Яго вернаму люду. Аднак нам самім, магчыма, больш, чым нашым парафіянам, пагражае руціна і нават пачуццё абыякавасці да гэтай вялікай Таямніцы. Угледаючыся ў аблічча Марыі, якая адарue з верай нябачнага людскім вачам Сына, давайце прасіць для сябе дару жывой, гарачай веры ў Яго прысутнасць у Сакраманце Алтара.*

*Фрагмент гамілii падчас пастырскай сустрэчы святароў у Гродзенскай ВДС, 13.11.2019*




◆ *Папа Францішак прызначыў новага Пастаяннага назіральніка Апостальскай Сталіцы пры Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Ім стаў 61-гадовы арцыбіскуп Габрыэле Джардана Кача. Новапрызначаны прадстаўнік Святога Пасаду пры структурах ААН у Нью-Ёрку (ЗША) паходзіць з Італіі. Прэзбітэрскае пасвячэнне атрымаў у 1980 годзе. Мае доктарскую ступень па тэалогіі і ліцэнцыят па кананічным праве. З 1991 года знаходзіцца на дыпламатычнай службе. З 2017 года выконваў абавязкі Апостальскага нунцыя на Філіпінах. На пасадзе Пастаяннага назіральніка Апостальскай Сталіцы пры ААН ён змяніў арцыбіскупа Бернардзіта Аусу, які быў прызначаны Апостальскім нунцыем у Іспаніі.*

◆ *У гістарычным палацы на плошчы св. Пятра ў Ватыкане па распараджэнні Святога Айца адкрыта сядзіба для бяздомных. У будынку знаходзяцца 1-5-месныя пакоі, што змяшчаюць разам 50 асоб. Тэраса, з якой паўстае прыгожы від на базіліку св. Пятра, аддасца пад арэнду – такім чынам дом будзе сам сябе ўтрымліваць. У сядзібе ёсць сталовая, камп'ютарная зала. Бяздомныя змогуць жыць у прытулку столькі, колькі ім трэба, без абмежаванага тэрміну. "Гасцінны дом" аддадзены пад апеку Супольнасці св. Эгідзія.*

◆ *Паводле вынікаў сацыялагічнага апытання за 2019 год, праведзенага Цэнтрам Разумкова ва Украіне, стаўленне грамадзян да самых распаўсюджаных рэлігій у краіне ў асноўным станоўчае. Што тычыцца рымска-каталіцызму, галасы рэспандэнтаў падзяліліся паміж станоўчым і абыякавым стаўленнем (39% і 42% адпаведна). Адносна іншых рэлігій і рэлігійных рухаў большасць рэспандэнтаў заявілі пра сваю абыякавасць альбо прызналі, што не думаюць пра гэта. Па апошніх даных, да рыма-католікаў сябе адносяць 1,6% насельніцтва Украіны.*

◆ *Пошукавы сервіс Google склаў рэйтынг найбольш папулярных святых, інфармацыю пра якіх людзі найчасцей шукаюць у інтэрнэце. У топ-5 увайшлі наступныя імёны: св. Вінцэнт дэ Поль, Найсвяцейшая Панна Марыя, св. Юзаф, св. Францішак з Асізі, св. Павел. Далей ідуць св. Патрык, св. Маці Тэрэза з Калькуты, св. Міхал Арханёл, св. Антоній Падуанскі і св. Жана д'Арк. Завяршаюць рэйтынг св. Ян Павел ІІ і св. Юда Тадэвуш.*

◆ *Вядомы амерыканскі рэпер Канье Уэст імкнецца выкарыстаць сваю славу для евангелізацыі, і ён не падбірае для гэтага слоў. Адкрыта заяўляе, што працуе для Бога, што з'яўляецца "хрысціянінам ва ўсім" і што "няверуючыя людзі – гэта хадзячыя трупы". З нагоды выхаду новага альбома "Jesus Is King" ("Езус – Кароль") выканаўца часта дае інтэрв'ю для СМІ, дзелячыся як сваімі поглядамі, так і традыцыйнымі каштоўнасцямі.*

*vaticannews.va; credo.pro; aleteia.org*

# КОЛЕРЫ АДВЭНТУ

● *працяг са с. 1*




У маім уяўленні Адвэнт прыгадвае прыгожы аздобны ліхтарык, які вісіць на цаглянай сцяне і адкідвае яснае цёплае святло. Нядаўна я ўпершыню ў жыцці малявала акварэллю, і гэты новы досвед захапіў мяне да глыбіні душы. Паспрабую намаляваць сваю карціну пад назвай "Адвэнт".

Бяру ў рукі чысты аркуш паперы. Яго некранутая бель сімвалізуе цішыню, без якой не ўдасца адпаведным чынам перажыць падрыхтоўку да прыходу Збаўцы. Яна вельмі патрэбная, таму што вакол нас і ў нас саміх шмат шуму і мітусні. Цішыня дапамагае заўважыць, што маем жыццё ў сабе – унутранае жыццё. Чым і як часта кормім сваю душу? Нярэдка так актыўна клапоцімся аб здаровым харчаванні, дыетах... А ці дбаем аб спажытку духоўным? Ці насычаем душу малітвай, размовай з Усемагутным, Божым словам, сакрамантамі?

Цішыня неабходна, каб пазнаць сябе, а затым даваць сябе іншым. Мы штодзённа маем важныя тэмы для абмеркавання, справы для вырашэння, музыку для праслухвання, тэлефоны для размоў і смс... Усё гэта заглушае свядомасць. Патрабуем цішыні, каб сустрэцца з Богам. Нябесны Айцец нястомна на нас чакае, звяртаецца да нас, але маем занадта шмат усяго ў галаве, занадта шмат шуму навокал, каб здолець Яго пачуць.

Аднак звычайнага белага аркуша недастаткова. Павінна быць адпаведная папера – для акварэльных фарбаў. Ад яе якасці залежыць, ці ўдасца карціна, ці фарбы будуць сябе паводзіць, як трэба. Цішыня таксама мае сваю якасць. Нам неабходна як знешняя, так і ўнутраная цішыня. Што гэта значыць? Пазбаўленне ад навакольнага хаосу дапамагае засяродзіцца. Аднак нашмат важней умець суцішыць сэрца. Калі прыслухаемся да сябе, заўважым, які хаос пануе ўнутры нас: адна думка апярэджвае другую, пачуццё наганяе пачуццё, успаміны заліваюць уяўленне, пільныя справы патрабуюць увагі... Не верыце? Паспрабуйце хаця б цягам 5-ці хвілін захоўваць знешнюю цішыню – і ўпэўніцеся.

Пасля выбару адпаведнай паперы можна брацца за эскіз, які аблегчыць маляванне фарбамі. Гэты эскіз – план перажывання Адвэнту, канкрэтная прапанова таго, як будзе выглядаць наша чаканне Збаўцы.

# ДАР ДЛЯ ЎСЯГО КАСЦЁЛА

● *працяг са с. 1*

**Чым для новых працаўнікоў Божай нівы з'яўляецца момант пасвячэнняў? У чым яны бачаць сваю місію? Хто з'яўляецца для іх прыкладам святарскага жыцця?**



## *Кс. Віталій Валюк,*

*нарадзіўся 26 чэрвеня 1991 г., паходзіць з парафіі Божага Цела ў Крамяніцы (дэканат Ваўкавыск)*

*Аналізуючы падзеі з жыцця, я прыйшоў да высновы, што святарскае пакліканне для мяне вымаліў дзядуля. Ён першым заклаў зерне веры ў маім сэрцы, быў прыкладам любові да Бога. У дзяцінстве, калі дзядуля не хацеў браць мяне з сабой, я з крыўдай пытаўся: "Чаму?". Яго адказ быў просты: "Ксёндз не павінен нідзе ездзіць". Тады я гэтага не зразумеў – узгадаў пра той выпадак ужо будучы ў семінарыі.*

*Пасля смерці дзядулі пра ўмацаванне маёй веры клапаціліся хросная, сёстры кацярынкі і святары, а таксама таварышы са школы, з якімі разам хадзілі ў касцёл і на заняткі рэлігіі. Прысвяціць сваё жыццё служэнню Богу і людзям я цвёрда пастанавіў падчас рэкалекцый распазнання паклікання.*

*Прыклад веры нястомна чэрпаю з жыцыярысаў святых. Але ёсць таксама людзі, якія, знаходзячыся побач, з'яўляюцца для мяне ўзорам для пераймання. Перш за ўсё, гэта святары, якіх пазнаў у сваёй парафіі: кс. Кшыштаф Янас, чалавек малітвы і працы, кс. Юрый Свілоцкі, які ўмеў знайсці час для кожнага, выслухаць і параіць, а таксама цяперашні кс. пробашч Аляксандр Баклажэц, ветлівы і адкрыты чалавек, які з дабрынёй, усмешкай і клопатам падыходзіць да людзей. Як трэба аддана і верна служыць Богу, сваім жыццём таксама паказваюць кс. Андрэй Стапыра, кс. Юрый Канапелька, кс. Андрэй Радзевіч і многія іншыя.*

*Прыняцце пасвячэнняў з'яўляецца для мяне крокам у самастойнае жыццё. Гэта вялікая адказнасць за Паўсюдны Касцёл, магчымасць супрацоўніцтва з кожным чалавекам. Лічу, што служба святара – унікальная служба. Ведаю, што буду пасланы да розных людзей. Але больш за ўсё мне падабаецца праца са старэйшымі асобамі, бо, на жаль, сёння часта імі пагарджаюць, не разумеюць. Таксама лічу актуальнай і востра неабходнай паслугу сярод моладзі.*



## *Дк. Томаш Мікалайчык,*

*нарадзіўся 1 красавіка 1996 г., паходзіць з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе*

*Цяжка гаварыць пра пакліканне, бо невядома, калі яно выспела. Я рос у каталіцкім асяроддзі і з дзяцінства меў думкі аб святарстве. Часам гэтае жаданне было вельмі выразнае, часам менш, але ніколі мяне не пакідала. Калі старэйшы брат пайшоў у семінарыю, нарадзіліся пэўныя сумненні. Але я стараўся шукаць Божую волю ў жыцці, і праз нейкі час таксама апынуўся за мурамі семінарыі.*

*Што да вытокаў... Вера, як гавораць, была мне перададзена з малаком матулі. Глыбокі ўплыў аказалі сустрэчы са святарамі, іх добры прыклад. Мне заўсёды падабалася сачыць за паводзінамі старэйшых ксяндзоў, асабліва тых, якія скончылі семінарыю ў Рызе, і размаўляць з імі, бо яны наследавалі вельмі цікавыя традыцыі святарскага жыцця. З цеплынёй узгадваю светлай памяці кс. Тадэвуша Вышынскага, які стаў для мяне ўзорам спалучэння адукаванасці і інтэлігентнасці з верай і чалавечнасцю. Удзячны таксама выхаваўцам семінарыі. Ад кожнага можна пераняць нейкую добрую якасць. Дзякую родным і парафіяльнай супольнасці за малітоўную падтрымку! Яе я адчуваю вельмі выразна.*

*Пасвячэнні – гэта канкрэтны крок у прысвячэнні сябе на службу Богу ў Касцёле. Адчуваецца некаторы страх, бо значна больш усведамляецца адказнасць, якая на цябе неўзабаве будзе ўскладзена. Але адчуваецца і радасць, бо хутка надыдзе момант, да якога столькі рыхтаваўся. У будучым прагну прысвяціць свае здольнасці і магчымасці евангелізацыйнай місіі, да якой заклікае Касцёл. А гэта можа адбывацца рознымі шляхамі: як праз звычайныя формы душпастырства, так і, напрыклад, праз музыку, літаратуру...*



## *Дк. Павел Шэмет,*

*нарадзіўся 12 ліпеня 1997 г., паходзіць з парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Капцёўцы (дэканат Гродна-Захад)*

*Напэўна, як большасць маладых людзей, пра сваю будучыню я пачаў сур'ёзна задумвацца дзесьці напрыканцы 8 класа. Але на той момант яшчэ не думаў пра святарства. Праз некаторы час пробашч роднай парафіі прапанаваў мне як міністранту паехаць у семінарыю на рэкалекцыі распазнання паклікання. Разважанні, малітва і дыялог з самім сабой... З часам я пачаў цікавіцца святарствам, маліцца, прасячы Бога аб тым, каб даў знак, што гэта мой жыццёвы шлях. Нарэшце пасля размовы з пробашчам вырашыў паступаць у семінарыю.*

*Прыняцце пасвячэнняў з'яўляецца для мяне вялікай ласкай, дарам ад Бога. Спадзяюся, што буду добра выконваць місію дыякана. Маю надзею, што гэтая паслуга, якая заключаецца найперш у служэ Касцёлу ў літургіі, справах міласці і, безумоўна, падтрымцы святара, яшчэ больш прыблізіць мяне да Хрыста. Менавіта Ён, добры Пастыр, з'яўляецца дасканалым узорам святарства.*

*Пры нагодзе дзякую пробашчу кс. Міхалу Ластоўскаму за яго душпастырскі прыклад, парады і словы, што падтрымлівалі мяне на духу, а таксама ўсім тым, каго сустрэў падчас сваёй фармацыі ў семінарыі: кансэкраваным асобам і свецкім вернікам – за ўвагу і памяць у малітве.*

Гаворка пра актыўнае чаканне. Гэта праца над сабой, дакладныя пастановы, барацьба са слабасцю, ачышчэнне сэрца ад усяго таго, што перашкаджае, што не дазваляе Хрысту нарадзіцца ўва мне. Што хочам намаляваць падчас гэтага Адвэнту? Якую пастанову возьмем?

Перад вачыма далікатны, але даволі выразны эскіз алоўкам, які паказвае, дзе знаходзіцца галоўны аб'ект малюнка – у нашым выпадку ліхтар, якія мае памеры, у якім месцы і якім чынам прымацаваны да сцяны. Інакш кажучы, маем канкрэтны духоўны план на Адвэнт. Ведаем, што хочам змяніць у сабе і якім чынам будзем да гэтага імкнуцца.

Надышоў час размалёўвання малюнка, каб стаў жывым, прыцягваў увагу, асвячаў наша жыццё і жыццё іншых людзей. Пачнём ад святла: вельмі мяккага, светла-жоўтага, у некаторых месцах белага, што асвячае ліхтар і сцяну, на якой ён вісіць. Святло – гэта ласка, што ззяе ў нашых сэрцах. Ласка дае святло і сілу, грэх жа прыносіць у сэрца змрок. Нібы ведаем аб гэтым і нават разумеем, але ці калі-небудзь задумваліся над тым, чым з'яўляецца цемра ва ўласнай душы і якія мае наступствы? Які колер пераважае ў нашым сэрцы – змрок ці святло? Ці падабаецца тое, што бачым, і ці хочам гэта змяніць? Святло на малюнку мае светлае адценне і асвячае ўсё навокал. Якое святло гарыць у нашых сэрцах?

Кожная акварэльная фарба павінна высахнуць, каб не змяшацца з наступнымі колерамі. Падобным чынам адбываецца з пастановамі ў Адвэнце: патрэбны час і цярплівасць, каб яны замацаваліся, пачалі ўплываць на наша жыццё. Бярэмся за афарбоўку цаглянай сцяны, што мае рыжа-аранжавы колер з лёгкім адценнем карычневага. Гэты колер атаясамліваецца ў мяне з сустрэчай, цёплай сяброўскай размовай пры святле каміна. Адвэнт расчынае дыялог Анёла і Марыі падчас Звеставання. Іх сустрэча вучыць таму, што малітва мае быць дыялогам, які падразумявае два бакі: гавару – потым слухаю; Бог гаворыць – выконваю Яго волю. Варта прыглядзецца да сваёй малітвы: ці падобна яна на размову Анёла і Марыі? Ці ўвогуле з'яўляецца дыялогам? А можа, гэта хутчэй "літанія" просьбаў і патрэб? Што Бог сказаў нам падчас апошняй малітвы? Ці пытаемся Яго меркавання адносна розных спраў?

Чакаем, пакуль фарба высахне. Цяпер можам размаляваць корпус ліхтара. Думаю, гэта павінен быць глыбокі цёмна-карычневы колер. Ён атаясамліваецца ў мяне з тугой. Напэўна, кожны з нас ужо перажываў у жыцці гэтае пачуццё і ведае, якое яно можа быць вострае. У цішыні і дыялогу з Богам маем шанс убачыць, аб чым тужым, аб чым часцей за ўсё думаем, чаго нам не хапае і як гэта праяўляецца ў жыцці. Аб кім ці аб чым сумуем? Пра што гэта сведчыць? Цікава, якога колеру Ваша туга?

Малюнак усё прыгажэйшы! Бярэм у рукі незвычайную гелевую ручку – белага колеру. Яна дазволіць нанесці рэфлексы святла, якое адбіваецца найбольш на цёмных фрагментах ліхтара. Такія лініі і кропкі ажыўляюць малюнак, надаюць уражанне, што святло рухаецца і мільгаціць. Яно прыгадвае мне радасць, якая ажыўляе і саграваае сэрца. Варта ў час Адвэнту ўбачыць, што ці хто з'яўляецца для нас крыніцай радасці, звярнуць увагу на вынікі сапраўднай, глыбокай, духоўнай асалоды. Якія колеры выкарыстаеце для таго, каб намаляваць сваю радасць?

Прыгожы ліхтар амаль гатовы… Застаўся апошні – вельмі важны – этап стварэння малюнка. Трэба надаць яму канчатковую форму. Бярэм у рукі чорную гелевую ручку і яшчэ раз абводзім абрысы, якія спачатку асцярожна пазначалі алоўкам. Некаторыя лініі засталіся такія ж, іншыя мусім трохі падправіць, бо фарба змяніла контур. Падкрэсліваем і тыя месцы, дзе неабходны большыя цені ці выразныя граніцы. Гэтыя апошнія штрыхі – роля любові ў перажыванні Адвэнту. Яна робіць усё выразным, рэальным, бачным – нашы эскізы, духоўныя планы, пастановы. З'яўляецца сэнсам, матывам, нагодай і пацвярджэннем усяго вобразу Адвэнту. З любові хочам змагацца за цішыню, з любові робім высілак малітвы – сапраўднага дыялогу. З-за любові вядзём барацьбу з цемрай граху, стараемся ўпарадкаваць свае жаданні, не паддаёмся смутку, ад якога, як сцвярджаецца ў Пісанні, "няма ніякай карысці" (Сір 30, 23), і выбіраем радасць.

Атрымаўся своеасаблівы каляровы вобраз Адвэнту – ліхтар, што асвячае змрок жыцця. А які малюнак створыце Вы? Якія колеры выкарыстаеце? Як "афарбуеце" сваё сэрца ў гэты час чакання? Можа, дададзяце штосьці да маёй палітры?

*С. Зоя Дамброўская ISSM*

## Дк. Андрэй Струкель,
*нарадзіўся 19 лістапада 1993 г., паходзіць з парафіі Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе*



*Сваё пакліканне я адчуў у 9 класе, але не мог даць Богу адказ, бо не быў упэўнены. Праз год паведаміў бацькам аб тым, што хачу стаць святаром. На маё рашэнне яны адрэагавалі добра, але было бачна, што да канца не згаджаюцца з ім. Прайшло некалькі дзён і маці прапанавала мне спачатку паступіць у каледж, а пасля, калі не змяню свайго рашэння, яны з татам дадуць бацькоўскае блаславенне на гэты нялёгкі шлях.*

*Падчас вучобы ў каледжы думкі аб святарстве то перапаўнялі мяне, то знікалі. Урэшце рэшт я ўжо не мог адназначна адказаць, хачу стаць святаром ці не. Тады на адной з адарацый я звярнуўся да Езуса з пытаннем: "Што мне рабіць?". Адказу не прыйшлося доўга чакаць. Манахіня, якая служыла ў нашай парафіі, падышла да нас, маладых людзей, і сказала: "Бог камусьці з вас кажа: «Калі хочаш ісці за Мною, адрачыся самога сябе, вазьмі свой крыж і ідзі»". Пасля гэтых слоў я здабыў упэўненасць у сваім рашэнні стаць святаром.*

*Пасвячэнні – адзін з найважнейшых момантаў майго жыцця. Гэта прыняцце на сябе вялікай адказнасці не толькі за ўласнае жыццё, але і за жыццё іншых людзей, якіх Бог паставіць на маім шляху. Сваю місію бачу ў тым, каб быць сведкам уваскрослага Хрыста, абвяшчаць Божае слова і несці людзям любоў, якой Стварыцель хоча агарнуць кожнага чалавека. Прыкладам для мяне з'яўляюцца святары, якія дасягнулі галоўнай мэты свайго жыцця і цяпер праслаўляюць Бога ў Яго Валадарстве: св. Ян Павел II і святары-мучанікі з Ліды.*

*Я вельмі ўдзячны пробашчу роднай парафіі кс. каноніку Уладзіміру Гуляю. Ён сваім служэннем паказвае, якім павінен быць святар і як трэба адносіцца да іншага чалавека. Ад усяго сэрца дзякую бацькам, якія падчас хросту ўзялі на сябе абавязак выхаваць мяне ў каталіцкай веры і споўнілі яго, а таксама бабулі і дзядулі, што навучылі першым малітвам.*

## Дк. Яўген Амасёнак,
*нарадзіўся 8 сакавіка 1987 г., паходзіць з парафіі св. апостала Андрэя ў Слоніме*



*Пакліканне для мяне – гэта адказ на тую невымоўную любоў, якой так шчодра і нястомна адорвае Бог. Іншымі словамі, гэта адчуванне моцнага прагнення дзяліцца тым, што калісьці асабіста атрымаў ад Пана. Прыняцце пасвячэнняў азначае, перш за ўсё, запрашэнне да новых, больш глыбокіх адносін з Богам. Яны, між іншым, будуюцца на ўсведамленні ўскладзенай на мяне адказнасці і даверу, які буду ўсімі сіламі старацца апраўдаць.*

*Сваю місію ў Касцёле бачу ў тым, каб заўсёды, нягледзячы на розныя жыццёвыя абставіны і цяжкасці, заставацца адлюстраваннем бязмернай Божай любові ў свеце. Гэта значыць, што я павінен зрабіць усё магчымае, каб ніколі не пакінуць чалавека сам-насам з яго праблемамі, сумненнямі ці роспаччу, а "пасяліць" у яго сэрцы пачуццё супакою, радасці і блізкасці Езуса. Аднак, на маю думку, гэтая місія можа здзяйсняцца толькі ў тым выпадку, калі ўсе твае дзеянні прасякнуты моцным прагненнем наследаваць Хрыста, бескарысліва і паслухмяна выконваючы заданні, якія вызначае Касцёл.*

*Шчыра веру, што кожны чалавек, з якім я быў знаёмы, неяк чынам паўплываў на маё духоўнае станаўленне. Аднак не магу не вылучыць сярод іх сваіх бацькоў, якія стылем уласнага жыцця і паводзінамі спрабавалі прывіць мне неабходныя, лічу, для сучаснага святара якасці. Маю надзею, што на працягу жыцця атрымаецца ўвасобіць хаця б нейкую частку з гэтых каштоўнасцей.*

*Я вельмі ўдзячны Богу за тое, што ставіць на маім шляху святароў, на якіх хочацца раўняцца. Большасць з іх – простыя людзі, верныя свайму пакліканню і адкрытыя на дзейнасць Бога ў сваім жыцці. Адным з такіх адданых святароў з'яўляецца а. Вітольд Жэльветра, які дапамагаў мне і маім родным рабіць першыя свядомыя крокі ў пазнанні Створцы і Яго любові. Прыклад яго служэння назаўсёды застанецца ў маёй памяці і сэрцы!*

## Дк. Дзмітрый Малец,
*нарадзіўся 18 чэрвеня 1996 г., паходзіць з парафіі Святой Сям'і ў Лідзе*



*Падчас вучобы ў 8 класе я атрымаў прапанову дапамагаць ксяндзу падчас св. Імшы. З таго часу, як стаў міністрантам, мяне не пакідалі думкі аб тым, каб пайсці за Хрыстом, абраўшы святарскі шлях жыцця. Я прасіў, каб Езус вывеў на тую сцежку, якую Ён з любоўю выбраў для мяне. Некалькі разоў удзельнічаў у рэкалекцыях распазнання паклікання, дзе святары і семінарысты дапамагалі нам, маладым хлопцам, разважаць над святарствам. У 10 класе канчаткова вырашыў, што буду паступаць у гродзенскую семінарыю.*

*Узрастаць у веры, перш за ўсё, мне дапамагалі бацькі: спачатку, калі прынеслі ў касцёл і пахрысцілі, і потым, калі мы кожны дзень збіраліся ўсёй сям'ёй на супольную малітву, калі разам у нядзелю і святы хадзілі ў святыню. Умацоўвацца ў веры мне таксама дапамагала бабуля, якая праводзіла першыя "заняткі рэлігіі". Яна вучыла малітвам і расказвала пра Пана Бога. Да прыняцця сакрамантаў споведзі і Першай св. Камуніі, а пазней да сакраманту канфірмацыі мяне, як і многіх іншых, прывялі манахскія сёстры.*

*У сваім пакліканні я ўзрастаў дзякуючы святарам, якіх сустрэў на жыццёвым шляху. У першую чаргу, маю на ўвазе пробашча роднай парафіі і вікарыяў, якія былі некалі і якія служаць у дадзены момант. Вялікую ролю адыгралі і ўсе людзі, якія маліліся ў маёй інтэнцыі.*

*Прыняць дыяканскія пасвячэнні – значыць у чарговы раз адказаць "так" на заклік Хрыста "Ідзі за Мной"; значыць прыняць заданне Езуса, а менавіта службу пры алтары Пана і абвяшчэнне Божага слова. Інакш кажучы, ахвяраваць сваё жыццё на служэнне Богу і людзям. У перспектыве кожнае заданне, даверанае біскупам, буду прымаць як волю Найвышэйшага. Я бачу сябе ў парафіяльным душпастырстве. Хачу дапамагаць людзям пазнаваць Пана Бога, асабліва тым, хто найбольш гэтага патрабуе.*

*Падрыхтавалі
кс. Юрый Марціновіч і Кінга Красіцкая*







### Нунцый пакідае нас?

***Арцыбіскуп Габар Пінтэр развітваецца з Беларуссю.***

*Папа Францішак накіраваў іерарха на дыпламатычную працу ў Гандурас (Цэнтральная Амерыка). Адмысловае паведамленне было апублікавана Апостальскай нунцыятурай у Рэспубліцы Беларусь.*

*Кс. абп Габар Пінтэр з'яўляецца Апостальскім нунцыем у нашай краіне з 13 мая 2016 года. Ён працягне сваю дыпламатычную місію ў РБ прыблізна да сярэдзіны студзеня 2020 года.*

**CatholicNews.by**

### Ксёндз-лекар з Глыбокага

***Бразільская дыяцэзія Понта Гроса звярнулася ў Ватыкан з просьбай распачаць працэс беатыфікацыі кс. Вацлава Шуневіча СМ, вядомага як "ксёндз-лекар".***

*Святар нарадзіўся 28 снежня 1892 года ў Глыбокім на тэрыторыі тагачаснай Віленскай губерні ў шляхецкім родзе Шуневічаў. У 1917 годзе ў Маскве атрымаў дыплом урача. У 1927 годзе ўступіў у Кангрэгацыю Місіянераў св. Вінцэнта дэ Поля (лазарыстаў). Служыў у Кітаі, ЗША, Бразіліі.*

*Як афтальмолаг і навуковец вядомы як першы, хто правёў хірургічнае лячэнне астыгматызму рагавіцы і рэтынапатыі (паражэнне сятчаткі вока). Штогод асабіста праводзіў каля 800 аперацый па выдаленні катаракты.*

**niedziela** TYGODNIK KATOLICKI

### Падзяка за аборт… Богу

***Амерыканскія абаронцы жыцця шакіраваны ініцыятывай абартыўнай актывісткі, якая прадае ў інтэрнэце кашулькі з надпісам "Thank God for Abortion" ("Дзякуй Богу за аборт"). Жанчына заахвочвае асоб, якія падтрымліваюць аборты, фатаграфавацца ў іх і размяшчаць здымкі на спецыяльным акаунце ў Інстаграме.***

*Ініцыятыва "Thank God for Abortion" паўстала ў 2015 годзе як адказ на закрыццё некаторых абартыўных клінік, якія не адпавядалі нарматыўным стандартам. Яе распачала Віва Руіс, што прадстаўляецца як "мастачка, творца, квір, каталічка, якая ганарыцца тым, што мела 2 аборты". Яе мэта – "пазбавіцца ад стыгматызаванай характарыстыкі абортаў як граху праз радасны погляд на ўласны досвед аборту", з надзеяй натхніць іншых і з перакананнем, што "доступ да рэпрадуктыўных паслуг – гэта асноўнае і звычайнае права чалавека".




## *Ці можа католік звяртацца за дапамогай да астэапата?*

*Людское здароўе ўразлівае. Спакон вякоў чалавек рознымі спосабамі спрабуе абараніць сябе ад слабасці, старасці і нават смерці. Гэты факт паспрыяў узнікненню альтэрнатыўнай медыцыны і працягвае выклікаць з'яўленне розных метадаў тэрапіі ў яе межах.*

*Адзін з іх – астэапатыя, або дыягностыка і лячэнне захворванняў з дапамогай "умелых рук", што палягае на г. зв. "цэласным падыходзе". Увага акцэнтуецца на тым, што чалавек – адно фізічнае, духоўнае і псіхалагічнае цэлае, і гэтыя плоскасці нельга раздзяляць. Астэапаты мяркуюць, што мануальнае ўздзеянне на арганізм можа паўплываць на розум і дух.*

*Вядома, пры сутыкненні з пэўнай хваробай трэба браць пад увагу ўсяго чалавека, але цэласны падыход не заўсёды з'яўляецца правільным. Так, некаторую немач можна "вымасаваць" і вылечыць з дапамогай масажу. Напрыклад, перамагчы боль у плячах або змякчыць перанапружанне цяглiц. Аднак нельга замяняць мануальным уздзеяннем традыцыйную медыцыну там, дзе яна неабходна. Калі гаворка ідзе пра дэпрэсію, прычынай узнікнення якой напэўна не з'яўляецца здранцвелая мышца, варта звярнуцца да лекавых сродкаў.*

*На рэчы трэба глядзець з мудрасцю. Не ленавацца аналізаваць, дзе корань хваробы ляжыць на паверхні, дзе глыбей, а дзе проста патрэбна таблетка ад грыпу.*

*Кс. Алег Кудэрка*
***Паводле grodnensis.by***




# Жалоба ў сям'і.
## Як дапамагчы асобам, якія страцілі блізкіх?



***Кс. Павел Салабуда,***
*псіхолаг*

Хоць мы веруючыя людзі і ведаем, што жыццё не заканчваецца пахаваннем цела чалавека на могілках, што смерць – гэта дзверы ў вечнасць, аднак для многіх страта сваяка ці сябра становіцца крыніцай нястрымнага смутку ці нават роспачы. Як дапамагчы тым, хто перажывае цяжкія эмоцыі? Як сябе паводзіць з імі? Ці можна казаць дзіцяці пра смерць блізкага чалавека? Гэта нялёгкія пытанні, але яны непасрэдна звязаны з людскім жыццём, таму могуць закрануць кожнага з нас.

Смерць кагосьці блізкага – раптоўная ці чаканая, старэйшай асобы ці малога дзіцяці – цяжка прыняць. Таму, каб здолець дапамагчы людзям у жалобе, неабходна валодаць пэўнымі ведамі. Канешне, можна звярнуцца да адпаведна падрыхтаваных спецыялістаў, аднак памятайма, што аказаць падтрымку можа кожны з нас, а асаблівым чынам самыя блізкія.

У спецыялізаванай літаратуры падаецца галоўным чынам 5 станаў, якія спазнаюць асобы, страціўшы кагосьці блізкага:

1. ***шок і адмаўленне;***
2. ***неарганізаванасць паводзін;***
3. ***бунт;***
4. ***смутак і дэпрэсія;***
5. ***прыняцце і згода са стратай.***

Ад адмаўлення да прыняцця вельмі доўгі шлях. Спачатку чалавек да канца не верыць, што блізкай асобы ўжо няма побач. Часам нават паводзіць сябе так, нібы гэтая страта яго не датычыць; бывае абыякавы, апатычны. Важна тады не асуджаць яго за адсутнасць чуллівасці. Эмоцыі прыдуць пазней...

На другім этапе чалавек перажывае дэзарыентацыю паводзін. Напрыклад, штодзённыя абавязкі становяцца для яго занадта складанымі, паколькі канцэнтруецца на памерлым. Можа быць прыгнечаны пачуццём віны; будзе старацца ізалявацца ад іншых. Важна тады знаходзіцца побач з такой асобай, спадарожнічаць ёй сваёй зычлівай прысутнасцю і ў выпадку неабходнасці выказаць гатоўнасць дапамагчы. Не трэба спецыяльна суцяшаць або спрабаваць развесяліць, найважнейшае ў такой сітуацыі – быць побач.

Калі чалавек даходзіць да стану бунту, пачынае адчуваць гнеў. Ён можа быць накіраваны на кожнага: пачынаючы ад Бога, які "вінаваты ва ўсім", заканчваючы асобай, якая хоча дапамагчы. У такія моманты чалавек не здольны да дыскусіі, таму не варта яе нават пачынаць. Дастаткова далікатна ў размове прыгадваць аб добрых хвілінах, перажытых разам.

Пасля гневу прыходзіць апатыя. Асобу ў жалобе ўжо нішто не цешыць. Яна грэбуе сабой і бачыць усё ў чорных колерах. Пастаянна адчувае стомленасць, знясіленасць. На гэтым этапе трэба проста быць побач, дапамагаючы чалавеку адэкватна ўспрымаць рэчаіснасць, бо самастойна ён можа не быць здольным да гэтага.

Толькі пасля прыходзіць прыняцце. Чалавек, які перажывае страту, вяртаецца да колішняга жыцця паступова, беручыся за новыя задачы ўжо без удзелу асобы, якая адышла ў той свет. З гэтага моманту не варта ўспамінаць аб жалобе і перажытых пачуццях, але дапамагчы чалавеку ў рэалізацыі пастаўленых мэт.

Той, хто спадарожнічае асобе ў жалобе, павінен быць шчырым і аўтэнтычным, бескарыслівым, зычлівым і спагадлівым. Удзяляючы падтрымку, варта звярнуцца да ўнутраных рэсурсаў церпячага, каб указаць на важнасць самадапамогі. Гэта ўзмоцніць яго пачуццё ўласнай вартасці – здабудзе ўпэўненасць у сабе, пачне самастойна шукаць адказы і цвёрда разлічваць на сябе.

У жалобе нельга забывацца пра дзяцей. Яны рэагуюць на смерць інакш, чым дарослыя. Найважнейшае – любым чынам забяспечыць ім адчуванне бяспекі. Варта дазволіць дзіцяці спазнаць смутак, паколькі ў яго павінны скласціся ўласныя думкі на гэты конт. Простае і непасрэднае тлумачэнне таго, што ўяўляе сабой смерць, з'яўляецца лепшым, чым складаныя спробы ўкрыцця гэтага факта. Дзіця павінна ведаць, як у яго сям'і спраўляюцца са стратай.

***Як веруючыя людзі мы мусім памятаць, што адным з аптымальных спосабаў прыняцця жалобы з'яўляецца малітва. Калі просім для памерлых вечнага жыцця з Богам, у сэрцы ўмацоўваецца надзея на сустрэчу з блізкімі ў Небе. Чалавек, які перажывае жалобу ў малітве, зможа знайсці суцяшэнне і хутчэй вярнуцца да сваіх жыццёвых задач.***

# АДВЭНТ: ДРОБНЫ ДОБРЫ ЎЧЫНАК НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ

***1 снежня ў Касцёле распачынаецца асаблівы час – перыяд чакання Нараджэння Хрыста, Адвэнт. Рана надыходзячы змрок і паўсюднае мільгаценне ліхтарыкаў пагружаюць у атмасферу задумення, планавання, падрыхтоўкі да прыйсця ў свет Дзіцятка Езус. Шматлікія вернікі натхняюцца, каб прысвяціць гэты час служэнню бліжнім, адрачэнням, духоўнаму ўзрастанню, добрым учынкам. Некаторыя адважваюцца ўзяць сур'ёзныя пастановы і рупліва прытрымліваюцца іх на працягу 4-ох тыдняў.***



Рэдакцыя "Слова Жыцця" прапануе чараду ідэй для плённага перажывання Адвэнту. Можна следаваць парадам штодня або выбраць са спісу некалькі спраў, якія захочацца выканаць. У абодвух выпадках гэта дапаможа Табе, дарагі Чытач, усцешыць бліжняга і стаць крыху бліжэй да Госпада.

1. ***Пажадай прадаўцу ў краме добрага дня. Вось убачыш, як прыемна будзе чалавеку.***
2. ***Паразмаўляй з дзядулем ці бабуляй, што жыве па суседстве. Выслухай старога – пажылыя людзі маюць вялікую патрэбу ў гутарцы.***
3. ***Пахвалі працу іншага чалавека. Магчыма, гэта натхніць вас абодвух на яшчэ большыя здзяйсненні.***
4. ***Прабач свайго ворага, няхай нават ужо не маеш з гэтым чалавекам ніякіх зносін. Не захоўвай крыўды ў сэрцы.***
5. ***Перагледзі свой гардэроб. Занясі старую, але цэлую і чыстую вопратку ў пункт збору адзення для бяздомных.***
6. ***Прапусці каго-небудзь у чарзе. Навучыся не спяшацца.***
7. ***Запланўй удзел у Ратах. Прапануй таварышу далучыцца.***
8. ***Памаліся за нядобразычліўцаў. У першую чаргу, гэта злагодзіць стаўленне да іх.***
9. ***Прысвяці вечар родным і блізкім. Запрасі іх у госці на пачастунак.***
10. ***На працягу дня знайдзі час для чытання Бібліі.***
11. ***Пачастуй чым-небудзь гарачым бяздомнага – гарбатай ці піражком.***
12. ***Аддай непатрэбныя (у добрым стане) рэчы таму, хто мае ў іх неабходнасць.***
13. ***Усміхніся сустрэчнаму. Магчыма, гэта падыме яму настрой.***
14. ***Патэлефануй сябру, з якім даўно не размаўляў або пасварыўся. Зрабі першы крок.***
15. ***Ахвяруй некалькі хвілін святому апекуну. Памаліся праз яго заступніцтва – папрасі аб чым-небудзь або аддзяч за штосьці.***
16. ***Купі аздабленні і надай свайму пакою святочны настрой. Павесь гірлянду на акно, каб на вуліцы было крыху святлей, а мінакам – весялей.***
17. ***Дапамажы бліжняму парадай. Напэўна, хтосьці з акружэння мае ў ёй патрэбу.***
18. ***Падрыхтуй падарункі на Каляды для родных і сяброў.***
19. ***Абмяжуй выкарыстанне гаджэтаў: не гуляй зашмат у камп'ютарныя гульні і не "сядзі" падоўгу ў сацыяльных сетках.***
20. ***Прымі ўдзел у дабрачыннай акцыі. І гэта не абавязкова павінна быць грашовае ахвяраванне.***
21. ***Схадзі на споведзь – ачысці сваю душу ад граху.***
22. ***Прымі ўдзел у парафіяльных рэкалекцыях. Звычайна яны трываюць 3 дні.***
23. ***Пашукай інфармацыю на тэму цікавых калядных традыцый. Будзе чым здзівіць сям'ю на Раства.***
24. ***Падзяліся аплаткай і схадзі на св. Імшу Пастэрку.***
25. ***Радуйся і святкуй Нараджэнне Езуса Хрыста, нашага Збаўцы!***

Сёлета Бог ізноў народзіцца як маленькае Дзіця, і наша найважнейшая задача – падрыхтаваць Яму цёплую "стаенку" ў сваім сэрцы. З запалам прыступаючы да пастаноў, галоўнае не забывацца, дзеля Каго мы ўсё гэта робім...

Няхай сёлетні Адвэнт стане добрым часам для кожнага з нас: прынясе змены на лепшае, вырашыць спрэчкі, упарадкуе жыццё, натхніць на заўзятае выкананне абавязкаў, якія вынікаюць з паклікання, і адорыць сапраўднай радасцю. Няхай гэты перыяд напрыканцы каляндарнага года стане часам поўнай гармоніі з сабой, сусветам і Госпадам. Усім блаславёнага часу!

*Вольга Сяліцкая*

НАВІНЫ



## НОВАЯ ПАРАФІЯ Ў ГРОДНЕ

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі атрымала парафія бл. Мар'яны Бярнацкай. Дакумент быў сімвалічна падпісаны ва ўрачыстасць Усіх Святых намеснікам старшыні Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Віктарам Лісковічам.

Новая парафія ахоплівае гродзенскі мікрараён Баранавічы і будзе належаць да дэканата Сапоцкін. Апякункай абрана бл. Мар'яна Бярнацкая, якую разам з сынам і іншымі жыхарамі Гродна і Ліпска расстралялі фашысты падчас ІІ Сусветнай вайны на фартах за вёскай Навумавічы. Пробашчам прызначаны кс. Юрый Марціновіч – сакратар біскупа Гродзенскага, прэс-сакратар Гродзенскай курыі і адказны за СМІ дыяцэзіі.

Новая парафія ў горадзе над Нёманам паклікана да існавання праз 20 гадоў пасля беатыфікацыі бл. Мар'яны, што адбылася ў 1999 годзе. Яе разам з іншымі мучанікамі ІІ Сусветнай вайны да ліку блаславлёных Каталіцкага Касцёла далучыў Святы Айцец Ян Павел ІІ.

### ВЫШЭЙШАЯ ДУХОЎНАЯ СЕМІНАРЫЯ



Клерыкі Гродзенскай ВДС перажылі чарговы дзень засяроджання, які правёў кс. Юрый Жэгарын, пробашч парафіі св. Міхала Арханёла ў Навагрудку. Тэмай для разважанняў сталі словы: "Асэнсавaць мінулае, каб зразумець сучаснасць". Аскетычныя канферэнцыі, агульныя і індывідуальныя малітвы, адарацыя Насвяцейшага Сакраманту і св. Імша – усё гэта спрыяла пераасэнсаванню семінарыстамі сваіх адносін з Богам.

### БІСКУПСКІЯ ВІЗІТЫ



Біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч адправіў у лідскай парафіі Святой Сям'і св. Імшу ў інтэнцыі святароў, якія ў 2014 годзе скончылі навучанне і фармацыю ў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі.

Дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі наведаў капліцу ў Масалянах (дэканат Вялікая Бераставіца), каб разам з вернікамі памаліцца, між іншым, за спачылага біскупа Віленскага Ігнацыя Масальскага, які паходзіць з гэтых мясцін. Генеральны вікарый наведаў таксама парафію св. Юды Тадэвуша ў Прывалцы (дэканат Гродна-Усход). У гэты дзень мясцовыя вернікі дзякавалі Богу за 100 гадоў існавання касцёла. З гэтай нагоды іерарх узначаліў св. Імшу ў інтэнцыі ўсіх, хто прычыніўся да паўстання святыні.

### АДНЫМ РАДКОМ

• Дапаможны біскуп Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юрый Касабуцкі ўзначаліў адпустовую ўрачыстасць у гонар св. Юды Тадэвуша ў Лаздунах (дэканат Іўе). • У катэдральнай базіліцы ў Гродне памаліліся за спачылае духавенства Гродзенскай дыяцэзіі. • Айцы піяры правялі дзень засяроджання ў тракельскім санктуарыі. • У вёсцы Шаулічы (дэканат Ваўкавыск), спаленай гітлераўцамі падчас ІІ Сусветнай вайны, памаліліся за ахвяр гэтай трагедыі. • У Макараўцах (дэканат Вялікая Бераставіца) у дзень літургічнага ўспаміну св. Губерта паляўнічыя сабраліся на супольнай Эўхарыстыі. • Капліца ў Дворышчы (дэканат Радунь) перададзена ва ўласнасць тракельскай парафіі. • Сустрэча з мастаком Надзеяй Букай была арганізавана ў санктуарыі ў Воранаве (дэканат Радунь). • У будынку духоўнай семінарыі ў Гродне прайшла пастырская сустрэча святароў Гродзенскай дыяцэзіі. • Семінарысты Гродзенскай ВДС запісалі музычны твор пад назвай "Беларусь, Беларусь!". • Вернікі з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску наведалі санктуарый у Тракелях. • Дні моладзі і духоўныя сустрэчы для юнакоў, арганізаваныя айцамі піярамі, адбыліся ў Шчучыне.

*Агляд навін падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**24 лістапада 1966 г.** – кс. д-р Севярын Яноўскі, *проб. Вавёрка;*
**24 лістапада 2018 г.** – кс. Казімір Вальчук SDB, *проб. Дзятлава, Нястанішкі;*
**25 лістапада 1949 г.** – кс. канонік Міхал Маеўскі, *душп. Мінойты;*
**29 лістапада 1995 г.** – кс. Тадэвуш Лась SCJ, *душп. Лядск;*
**2 снежня 2016 г.** – кс. кан. Людвік Станішэўскі, *проб. Гнезна;*
**3 снежня 1964 г.** – кс. Станіслаў Смялоўскі, *проб. Казловічы;*
**3 снежня 2002 г.** – кс. Юзаф Кісель, *проб. Вішнева;*
**6 снежня 2001 г.** – кс. прэлат Алаізій Тамковіч, *проб. Астравец.*

АНОНСЫ

## МАЛІТВА Ў ДУХУ ТЭЗЭ АРГАНІЗУЕЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Сустрэчы прыхільнікаў ідэі хрысціянскага адзінства праходзяць у касцёле Звеставання Найсвяцейшай Панны Марыі (пабрыгіцкі) кожную 3-юю нядзелю месяца пасля св. Імшы а 19-ай гадзіне.**

Малітоўныя спатканні з'яўляюцца знакам адкрытай і гасціннай супольнасці вернікаў. Праводзяцца з мэтай пераадолення бар'ераў паміж суседзямі, культурнымі і этнічнымі групамі, людзьмі розных вызнанняў.

*Да ўдзелу ў малітве ў духу Тэзэ запрашаюцца ўсе жадаючыя.*

## РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ МУЖЧЫН АДБУДУЦЦА Ў ГРОДНЕ

**Духоўныя практыкаванні запланаваны на 30 лістапада ў касцёле Найсвяцейшага Адкупіцеля (Дзевятоўка).**

Рэкалекцыі на тэму "Дзесяць запаведзей у жыцці мужчыны" правядзе а. Андрэй Ядкоўскі CSsR. Ёсць магчымасць удзелу ў духоўных практыкаваннях на працягу ўсяго дня, а таксама ў выбраных пунктах праграмы.

*Арганізатары забяспечваюць удзельнікаў харчаваннем. Кошт удзелу – 10 рублёў.*

*Запіс і дадатковая інфармацыя па тэлефонах: (8 033) 624-42-85 – Павел, (8 033) 621-66-56 – Віталій, (8 044) 733-71-67 – Viber.*

## РЭКАЛЕКЦЫІ ДЛЯ ДЗЯЎЧАТ ПРОЙДУЦЬ У ГУДАГАІ

**Дзень малітвы ў цішыні арганізуюць сёстры кармэліткі Дзіцятка Езус.**

Тэма рэкалекцый – "Што можаш зрабіць сёння, не адкладвай на заўтра". Яны адбудуцца 7 снежня.

На духоўныя практыкаванні запрашаюцца тыя, хто хоча спаткацца з Богам, мае што Яму сказаць, хоча пачуць Яго голас, а таксама пачуць сябе.

*З сабой неабходна мець Біблію і нататнік.*

*Усе пытанні і запіс па тэлефоне: (8 029) 525-53-30 – с. Магдаліна Кулай.*

## У ГРОДНЕ ПРАХОДЗЯЦЬ ФАРМАЦЫЙНЫЯ СУСТРЭЧЫ ШКАПЛЕРНАГА БРАЦТВА

**Яны будуць праходзіць у парафіях Найсвяцейшага Адкупіцеля (Дзевятоўка) і Маці Божай Вастрабрамскай (Аўгустовак), 4 студзеня, 1 лютага, 7 сакавіка, 4 красавіка, 2 мая і 6 чэрвеня.**

Айцы кармэліты, якія праводзяць гэтыя сустрэчы, запрашаюць усіх, хто носіць святы шкаплер Марыі з гары Кармэль, а таксама ўсіх, хто цікавіцца кармэліцкай духоўнасцю і прагне наследаваць цноты Маці Божай у сваім штодзённым жыцці. Заахвочваюцца і жадаючы атрымаць шкаплер з рук айцоў кармэлітаў, што можна зрабіць падчас кожнай сустрэчы.

*Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць па тэлефоне: (8 044) 589-68-98 – а. Аляксандр Стока OCD.*

## ПАРАФІЯ Ў ВАЎКАВЫСКУ ЗАПРАШАЕ Ў ПІЛІГРЫМКІ ДА СВЯТЫХ МЕСЦАЎ

**У праграме аўтобусных паломніцтваў запланавана наведванне вядомых еўрапейскіх святынь і месцаў, дзе захоўваюцца рэліквіі многіх слынных святых.**

**Пілігрымка ў Лурд**
***Маршрут:*** *Ваўкавыск – Банэ – Парыж – Лізьё – Лурд – Арс – Ваўкавыск.*
***Выезд 13 ліпеня 2020 г. Працягласць – 8 дзён.***

**Пілігрымка ў Італію**
***Маршрут:*** *Ваўкавыск – Мілан – Турын – Асізі – Рым – Падуя – Асізі – Венецыя – Ваўкавыск.*
***Выезд 17 жніўня 2020 г. Працягласць – 8 дзён.***

*Атрымаць больш падрабязную інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8 029) 313-65-64 – кс. канонік Алег Дуль, пробашч парафіі св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску.*

## Каляндар падзей

***24 лістапада***
*Урачыстасць Езуса Хрыста, Валадара Сусвету. Дзень малітвы ў інтэнцыі выхавацеляў, выкладчыкаў і клерыкаў Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі.*

***30 лістапада***
*Свята св. апостала Андрэя.*

***1 снежня***
*І Нядзеля Адвэнту. Пачатак новага літургічнага года. Заахвочваем да набожнага і цвярозага перажывання гэтага перыяду.*

***3 снежня***
*Успамін св. Францішка Ксаверыя, прэзбітэра.*

***5 снежня***
*Гадавіна асвячэння катэдральнай базілікі ў Гродне.*

***7 снежня***
*Успамін св. Амброзія, біскупа і доктара Касцёла.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Лістапад***
*Аб памнажэнні сярод дыяцэзіян веры ў вечнае жыццё і боязі Божай у захаванні запаведзей.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

***Снежань***
*Аб дары здаровай набожнасці і вернасці хрысціянскім традыцыям у сем'ях.*
*Аб шчодрым духоўным плёне Дыяцэзіяльнага сінода.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім. Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.*

***Інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі grodnensis.by***
*Асвятленне падзей з жыцця Касцёла на Гродзеншчыне. Даступны фота- і відэаматэрыялы.*

# Ад шчырага сэрца

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**
з нагоды Імянін складаем букет сардэчных пажаданняў. Няхай кожны Ваш дзень праходзіць у радасці, сілы і запал да абвяшчэння Божага слова ніколі не пакідаюць, а побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі. Няхай Бог штодзённа адорвае Вас сваімі шчодрымі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік нястомна апекуюцца.
*Былыя парафіяне з Галавенчыцаў*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаю шчодрых Божых ласкаў. Няхай кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі праходзіць у супакоі і радасці, здароўе будзе моцным, планы заўсёды рэалізуюцца, а побач знаходзяцца добразычлівыя людзі. Жадаю таксама шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка.
*З памяццю ў малітве Андрэй*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Вітэку**
з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай святы Заступнік апекуецца Вамі кожны дзень, Пан Бог спасылае свае шчодрыя дары, а Найсвяцейшая Маці ахінае плашчом мацярынскай апекі. Жадаем таксама, каб кожны дзень жыцця праходзіў у радасці, мары здзяйсняліся, а святарская паслуга прынесла багаты плён на ніве Пана.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Воранава*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, аптымізму, непахіснай надзеі, сіл і стойкасці ў душпастырскай працы, а таксама нязгаснага запалу веры. Няхай усемагутны Бог адорвае Вас сваімі ласкамі, а святы Заступнік штодзённа апекуецца і суправаджае на шляху ў Нябеснае Валадарства.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Рандзілаўшчыны*

**Паважанаму Айцу Андрэю Агелю**
з нагоды Імянін складаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе напоўнены радасцю і цеплынёй, здароўе будзе моцным, сілы нязломнымі, а людзі навокал – добразычлівымі. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі, а Панна Марыя трымае ў сваёй мацярынскай апецы.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Ліды і Шчучына*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Радзевічу**
з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, шматлікіх Божых ласкаў, добрых і шчырых людзей, гатовых заўсёды дапамагчы, а таксама шмат сіл і стойкасці ў душпастырскай паслузе. Няхай Маці Божая апекуецца Вамі ў кожную хвіліну жыцця, а добры Бог адорвае сваім айцоўскім бласлаўленнем.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Бярозаўкі*

**Паважанаму Айцу Андрэю Зую**
з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай святы Заступнік штодзённа Вам спадарожнічае на шляху да святасці і да людскіх сэрцаў, усемагутны Бог ахінае сваім бласлаўленнем, адорвае здароўем, радасцю і супакоем, а Маці Божая нястомна Вамі апекуецца.
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Ліпнішкаў*

**Паважанаму Айцу Андрэю Врублеўскаму**
з нагоды Імянін перасылаем шчырыя пажаданні. Няхай у здароўі і радасці праходзяць гады жыцця, Святы Дух падтрымлівае ў выкананні такой нялёгкай душпастырскай службы, а Найсвяцейшая Маці бласлаўляе кожны Ваш дзень. Шчасці Божа!
*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з парафіі Гродна-Дзевятоўка*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Валерыю Шэйгерэвічу**
з нагоды 12-годдзя святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя віншаванні. Няхай добры Бог узнагароджвае Вас моцным здароўем, бласлаўляе і вядзе найлепшым шляхам, а нашы малітвы будуць для Вас падтрымкай. Жадаем шмат сіл у пераадоленні людскіх слабасцей. Дзякуем за добрае сэрца, цярплівасць і клопат пра нашу святыню.
*З удзячнасцю парафіяне з касцела св. Францішка Асізскага ў г. Свіслач*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**
з нагоды 13-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў сардэчна жадаем здароўя, мудрасці, цярплівасці. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена Божай радасцю, святлом і пяшчотай, Усемагутны адорвае бласлаўленнем, Езус Хрыстус ахоўвае ад бед, а Панна Марыя, святы Заступнік і Анёл-ахоўнік нястомна трымаюць Вас у сваёй апецы.
*З малітвай і павагай былыя вернікі з Моцевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Пышынскаму**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: душэўнага супакою, усмешкі на твары, задавальнення ад святарскай паслугі, апекі Маці Божай. Няхай шчасце спрыяе, Анёл адорвае любоўю, і здароўе не падводзіць. Сто гадоў!
*Былыя парафіяне з в. Мсцібава*

**Дарагога Сына Ксяндза Антонія Адамовіча**
сардэчна віншуем з нагоды 10-ай гадавіны святарства. Праз нашы малітвы просім міласэрнага Бога, каб узнагародзіў Цябе сілай і нязгасным запалам у шчырай і аддананай паслузе Яму і людзям. Няхай на шляху, які ўказаў Пан, Табе заўсёды спадарожнічаюць Езус і Яго Найсвяцейшая Маці, адорваючы бласлаўленнем і патрэбнымі ласкамі, а Святы Дух будзе шчодрым на свае дары.
*Мама і тата*

**Паважаны Ксёндз Аляксандр Лебядзевіч!**
З нагоды 12-ай гадавіны святарства і 6-ай гадавіны паслугі ў нашай парафіі жадаем Вам моцнага здароўя, радасці, сіл, шчасця. Так хораша становіцца на душы, калі разам збіраемся ў касцёле на св. Імшу, бо Вы заўсёды сустракаеце нас добразычлівым позіркам. Нізкі Вам паклон за культуру, зычлівасць, сардэчнасць, дабрыню і малітву, за клопат пра нашу святыню і за тое, што даступна тлумачыце Божае слова. Дзякуем Богу за тое, што сярод соцень рук абраў Вашы і даў ім бласлаўленне, а ў словах даў сілу агня, што ўключыў у сваё святарства і ўчыніў цэлебрантам Эўхарыстыі і Божага прабачэння. Няхай Дух Суцяшыцель будзе з Вамі праз свае дары, а Панна Марыя дапамагае аднавіць і захаваць першапачатковую любоў да Бога і Касцёла, якой было напоўнена Ваша сэрца ў дзень пасвячэння.
*Касцёльны камітэт, кола Жывога Ружанца, дзеці і вернікі з Жамыслаўля і Гравічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу**
з нагоды 40-годдзя прагнем скласці сардэчныя пажаданні. Няхай Божая любоў нястомна саграе Ваша сэрца, дадаючы сіл, каб абвяшчаць Добрую Навіну свету. Няхай Святы Дух асвячае шлях да людскіх душ, а Маці Божая і святы Заступнік ахінаюць сваёй апекай, бароначы ад усякага зла.
*З удзячнасцю і малітвай вернікі з вул. Зарэчнай у Новым Двары*

**Паважанаму Айцу Андрэю Агелю**
з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастырскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя і святы Заступнік нястомна Вамі апекуюцца, а Анёл-ахоўнік чувае над Вамі і дапамагае годна пераадольваць кожны дзень. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а Ваша праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён.
*З павагай і малітвай вернікі з парафіі Ліда-Індустрыяльны*

**Паважанаму Айцу Пробашчу Андрэю Зую**
з нагоды Імянін перасылаем шчырыя пажаданні і словы ўдзячнасці. Касцёл – гэта месца, куды прыходзім са сваімі радасцямі і падзякамі, клопатамі і нягодамі, месца, дзе адчуваем сябе пад абаронай Бога. І як прыемна бачыць, што наша святыня становіцца яшчэ больш прывабнай. Паважаны Айцец Андрэй! Няхай Бог Айцец і надалей дае Вам сілы, Святы Дух надзяляе мудрасцю і супакоем, Пан Езус служыць прыкладам на шляху святарства, а Маці Божая не пакіне ў сваёй апецы. Жадаем Вам моцнага здароўя на доўгія гады, добрых і спагадлівых парафіян, усяго толькі самага найлепшага. Няхай заўсёды Вас аберагае св. Андрэй!
*З вялікай павагай вернікі з парафіі св. Казіміра ў Ліпнішках*

**Паважанаму Айцу Вітольду Жэльветра**
з нагоды Імянін перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае сваімі дарамі. Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасных дзён і толькі добразычлівых людзей побач.
*Удзячныя парафіяне з Ліпнішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**
з нагоды Імянін складаем букет сардэчных пажаданняў, спалучаных з малітвай. Жадаем, каб Маці Божая апекавалася Вамі штодня, святы Заступнік быў побач у нялёгкія хвіліны, а Святы Дух узбагачаў дарамі душу, каб маглі і далей несці людзям свет Хрыстовага Евангелля.
*Парафіяне з капліцы ў Масалянах*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Кузьмічу**
з нагоды юбілейнага Дня нараджэння складаем сардэчныя віншаванні. Дай Вам Бог здароўя на доўгія гады жыцця, мудрасці, сілы і цярплівасці, Божай дапамогі і бласлаўлення ва ўсіх справах, настойлівасці ў вырашэнні штодзённых задач, апекі Маці Божай і святога Затупніка ў Небе. Няхай Найсвяцейшае Сэрца Езуса дапамагае Вам на святарскім шляху. Дзякуем за працу ў нашым касцёле.
*Ружанцовыя колы, члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам, апостальства “Маргарытка” і вернікі з парафіі Новы Двор*

**Паважанаму Ксяндзу Андрэю Казлоўскаму**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Прыміце, Ксёндз наш дарагі, словы шчырыя і простыя:

У дзень Вашых Імянін
хай Бог удзеліць
ласкаў мноства.
У пакланенні ўзмацняе,
бароніць, калі трэба,
Прамою, вернай сцежкай
Вас вядзе да Неба.
Сваім святарскім сэрцам
спявайце Яму ў падзяку:
За службу для Хрыста,
за вялікую адзнаку.
Мы ж шчыра і сардэчна
Вам усміхнемся сёння
І разам з пажаданнямі
малітвы Богу ўзнясём.

*Удзячныя парафіяне з Малой Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Здзіславу Пікулу**
з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, мудрасці, цярплівасці і дароў Святога Духа на кожны дзень. Дзякуем за нязгасны запал на нялёгкім шляху шчырай і аддананай паслугі Богу і людзям. Няхай Ваша сэрца заўсёды будзе напоўнена радасцю, святлом і ласкай Усемагутнага. Няхай добры Бог адорвае бласлаўленнем, Езус Хрыстус ахоўвае ад бед, а Маці Божая, святы Заступнік і Анёл-ахоўнік нястомна трымаюць Вас у сваёй апецы.
*З удзячнасцю парафіяне з Дзятлава*

**Паважанаму Айцу Казіміру Енджэйчаку**
з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем Божага бласлаўлення. Няхай кожны дзень Вашага жыцця будзе напоўнены здароўем, шчасцем і радасцю. Няхай Святы Дух асвячае і вядзе Вас па Божых сцежках, а Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі. Шчасці Божа!
*Яна, Валерый, Вераніка*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру**
з нагоды Імянін складаю сардэчныя пажаданні. Няхай Пан дадае Вам моцы, Святы Дух адорвае мудрасцю і супакоем, а Маці Божая і святы Заступнік заўсёды бароняць і ахоўваюць. Выражаю пашану і ўдзячнасць за працу на ніве Пана, за мудрыя павучанні, якія дапамагаюць мне быць добрай хрысціянкай. Прашу Бога аб ласках для Вас, а таксама аб дары здароўя, неабходнага для штодзённай паслугі.
*Аліцыя Воранава са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму**
з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог узнагароджвае Вас моцным здароўем, стойкасцю і сілай, Маці Божая апекуецца Вамі і атуляе плашчом любові Беззаганнага Сэрца, а Святы Дух спасылае свае дары, асвячае святарскі шлях і дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу. Дзякуем за Вашы малітвы, зычлівасць, ахвярную працу пры будаванні нашай святыні, цудоўную ўсмешку, добрае сэрца, мудрыя павучанні, цудоўны прыклад веры і набожнасці, а таксама за тое, што Вы з намі і для нас.
*Касцёльны камітэт, Ружанцовыя колы і вернікі з парафіі св. Максімільяна Кольбэ і св. Станіслава, біскупа, у Каробчыцах*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Яну Рушніцкаму**
з нагоды Дня нараджэння складаем букет найпрыгажэйшых пажаданняў: здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, зычлівых людзей побач, душэўнага супакою і нястомнай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая ахінае Вас сваім плашчом і адорыць усімі ласкамі, каб маглі шчасліва выконваць сваю паслугу і цешыць усіх усмешкай.
*Сем’і Стэцкевіч і Васільевых*

**Паважаны Айцец Андрэй Зуй!**
Шчыра віншуем Вас з Днём нараджэння і Імянінамі. Сардэчна жадаем, каб добры Бог і надалей дапамагаў Вам ва ўсіх справах. Хай Ён узнагародзіць Вас за добрае, шчырае сэрца, за павагу да кожнага чалавека. Няхай Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, напаўняе радасцю кожны дзень Вашага няпростага душпастырскага служэння Богу і людзям. Жадаем моцнага здароўя, натхнення, цярплівасці ў штодзённых клопатах, а таксама моцы і мужнасці ў выпрабаваннях. Шаноўны Айцец Андрэй, мы вельмі ўдзячныя за Вашу плённую працу і добрыя справы на карысць нашай парафіі. Мы Вас вельмі любім, паважаем, памятаем.
*Вернікі з в. Гарадзішча Ваўкалацкай парафіі Віцебскай дыяцэзіі*

**Паважанаму Ксяндзу Каноніку Здзіславу Вэдэру**
з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця і бясконцых сіл. Няхай на шляху, які ўказаў Пан, Вам заўсёды спадарожнічаюць Езус і Яго Найсвяцейшая Маці, адорваючы бласлаўленнем і патрэбнымі ласкамі. Шчыра дзякуем Вам за добрае сэрца, веру і любоў да людзей, а таксама за тое, што несеце нам радасць Евангелля, каб трывалі ў Хрысце і ішлі за Ім.
*Удзячныя парафіяне, касцёльны хор і міністранты са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Яўгену Учкуронісу**
з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай кожны новы дзень прыносіць толькі добрыя навіны, паслуга будзе доўгай, а трывогі і смутак ніколі не закранаюць Ваша сэрца. Вы правадыр у нашай парафіі, таму мы заўжды будзем з Вамі і не стомімся маліцца за Вас.

40 – вроде бы немного,
Но Вы успели
главное найти.
Избрав для жизни
Господа дорогу,
Смогли Вы множество
людей спасти.
Вы как орудие
в руках Господних,
Ведь через Вас
спасает Бог людей.
Пусть наш Господь всегда
в моментах сложных
Наполнит разумом
и мудростью своей!

*З павагай і любоўю малітоўная група “Маці ў малітве” з парафіі св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Віктару Захарэўскаму**
з нагоды 13-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем букет сардэчных пажаданняў. Дарога святара – гэта пакорная і вялікадушная служба Богу, якая вядзе праз Галгофу, але ў канцы чакае ўваскросы Езус. Жадаем Вам спаўнення ўсіх мар, здароўя і сілы ад Бога Айца, прамяністага сэрца ад Езуса, мудрасці ад Святога Духа і ласкавасці ад Маці Божай. Упэўнена крочце дарогай да святасці, а дапамогай няхай будзе наша шчырая малітва.
*З удзячнасцю вернікі з Раготна*

**Паважанаму Айцу Валерыю Шэйгерэвічу**
з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем сіл, цярплівасці і стойкасці ў святарскай паслузе. Будзьце сапраўднай зброяй у руках Хрыста, навяртайце людзей да Бога, а таксама сваім жыццём і прыкладам давайце сведчанне аб Яго любові і штодзённай прысутнасці. Няхай Усемагутны дапамагае Вам у гэтым сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці нястомна клапоціцца пра Вас.
*Парафіяне з Поразава*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні.**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;** заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 75-64-38; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 5301; тыраж 5045; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты. Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная